Прачытай сам і перадай другому.

**№ 26 (4586)**

6 красавіка 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




# Народная Воля


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

ЗА КРАТАМІ

## Ігар БАРЫСАЎ:
# «Ты там нават не чалавек, ты там ніхто…»

*Учора пасля 15 сутак адміністрацыйнага арышту выйшаў на волю старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі **Ігар Барысаў**. Ён расказаў «Народнай Волі» пра катаванні, якія яму давялося вытрымаць.*



**– Ігар, віншую з выхадам на волю! Жонка сказала, што ў вас моцны галаўны боль. Не давалі лекаў?**

– Справа не толькі ў леках. Атмасфера там вельмі нервовая... Пасля 26 сакавіка ва ўсіх турэмшчыкаў цалкам змянілася стаўленне да арыштантаў. Матрацы пазабіралі, спалі на голых нарах, і камеру запоўнілі звыш нормы – было 15 чалавек на 10 месцаў. Перабоі з харчаваннем, ежы не хапала, а аднойчы зусім не пакармілі. У пятніцу з'явіліся амапаўцы, яны ўсім надавалі па нагах, а каму і па нырках перапала.

**– Вам таксама?**

– Мне – не, а вось аднаму з сакамернікаў дасталася моцна.

**– За што?**

– Ды проста так! Выходзіш на ранішнюю праверку – яе рабілі назіральнікі разам з амапаўцамі, і яны амаль нікога не прамінулі. Дасталася многім. Учора (*размова была 5 красавіка. – **М.К.***) забралі з камер усе прадукты, усю літаратуру, асадкі, сшыткі. І не было чым займацца, толькі сядзіш і ў столь глядзіш.

**– Лічылася, што раней да палітычных было больш прыстойнае стаўленне…**

– Не, там нічога прыстойнага няма. Радыё ўключаюць на поўную магутнасць, іх любімы спеў – «Слухай бацьку».

**– Відаць, за два тыдні словы на памяць вывучылі?**

– Мы берушы ўстаўлялі ў вушы – рабілі іх з падручных сродкаў. Святло не гасяць – усю ноч гарыць. Ноччу будзяць – спецыяльна робяць пераклічку, каб сон быў парушаны. Днём сядзець на нарах катэгарычна забаронена, нават калі камера перагружана. Мы аднойчы ўсёй камерай напісалі 45 скаргаў – на ўмовы ўтрымання. Нас сем сутак не вадзілі на прагулку, і ежы не хапала, у камеры шмат хто паліў. Турэмшчыкі імкнуліся прычыніць маральныя і фізічныя пакуты ўсім, хто знаходзіцца за кратамі.

**– Прафілактычных гутарак з вамі не праводзілі?**

– Быў адзін падпалкоўнік, які прыехаў на другі дзень пасля таго, як мяне перавялі ў Жодзіна. Ён цікавіўся старшынёй Аб'яднанай грамадзянскай партыі Мікалаем Казловым. Бо супраць яго быццам ўзбудзілі крымінальную справу ў сувязі з тым, што разгалошана прозвішча супрацоўніцы, якая выклікала яго позвай у Следчы камітэт, а Казлоў тады адмовіўся ад дачы падпіскі аб неразгалошванні. І гэты падпалкоўнік цікавіўся маім званком Казлову, пытаўся, пра што мы гаварылі. Я адказаў: маўляў, вы, пэўна, самі ведаеце, пра што…

– Дык ці выйдзе Казлоў бліжэйшымі днямі на волю, калі, магчыма, ёсць яшчэ і крымінальная справа?

**– Наколькі я ведаю, зараз ён сядзіць па адміністрацыйнай справе…**

На Акрэсціна, дарэчы, усіх моцна травілі хлоркай. Справа выглядала так: напрыклад, наша камера была двухмесная, а ў ёй знаходзіліся 10 чалавек напрыканцы. І з раніцы адчыняюцца дзверы, усіх выводзяць, бяруць вядро з хлоркай, выліваюць у камеру і заганяюць назад. І калі ў цябе ёсцьануча, то ты выціраеш ёю гэтую смярдзючую ваду, а калі няма – здымаеш майку альбо трусы і робіш тое ж самае. Літаральна праз некалькі гадзін ва ўсіх пачынаецца галаўны боль.

Сістэма так працуе, што там няма адчыненых вокнаў, а лючок, які прадугледжаны для кармушкі, яны не адчыняюць, каб праветрыць. Калі мы грукаліся ў дзверы і казалі, што дыхаць няма чым, прасілі адкрыць хаця б гэты люк, нам казалі: «Не паложана!» І такое яны на Акрэсціна практыкуюць кожны дзень… Ці ж не катаванне гэта?!

Казлова ўвогуле пасадзілі ў карцар памерам два на тры метры і падсялілі туды шэсць чалавек, а потым яшчэ і бамжа падкінулі. Пра гэта мне распавялі хлопцы, з якімі нас разам этапіравалі ў Жодзіна. І ў адрозненне ад нас ім не адно, а два вядры хлоркі плюхнулі. У некаторых хлопцаў потым былі апёкі слізістай.

**– А зараз Казлоў на Акрэсціна ці яго перавялі ў Жодзіна?**

– Не ведаю…

Яшчэ калі казаць пра прафілактычныя гутаркі, то амаль усіх на Акрэсціна вадзілі на аўдыенцыю да прадстаўніка мінскай міліцыі, пыталіся «Што вы думаеце пра пратэсты?».

**– Ведаю, што жонка паспела вам перадаць лекі ад мігрэні…**

– Так, але ў Жодзіне з лекамі было цяжкавата. Напрыклад, аднаму з маіх сакамернікаў іх не далі. Ён скардзіўся на галаўны боль і прасіў, каб далі хоць што. Яму не далі ні таблеткі, не паклікалі фельчара, і тады ён аб'явіў сухую галадоўку – трымаў да таго часу, пакуль на яго, нарэшце, не звярнулі ўвагу. Далі яму потым нейкія тры таблеткі.

Тым, у каго былі прыкметы тэмпературы, ніхто яе нават не памераў, хаця абяцалі. А раніцай ужо ўся камера прачыналася з насмаркам і галаўным болем. Відаць, вірус.

У нашай камеры вельмі моцна па нагах надавалі аднаму хлопцу – яны распухлі, і ён ледзь мог устаць. І фельчар не прыходзіў. Даводзілася проста кампрэсы з мачой на ноч рабіць праз цэлафанавыя пакеты, каб ацёк паменшыць…

У такіх дзікунскіх умовах людзі абсалютна бяспраўныя. Ты нават не чалавек. Ты ніхто… Адкрытым тэкстам кажуць: няма чаго было сюды трапляць, вы тут усе за трыццаць еўра сядзіце, без каардынатараў-лялькаводаў ні на якія пратэсты вы не здольныя… Карацей, мы столькі ўсяго наслухаліся!..

А калі матрацы ў нас забіралі, папярэдзілі: скажыце дзякуй тым, хто выйшаў на волю і расказаў, што тут адбываецца.

**– Ведаю, што вам пісалі шмат лістоў…**

– Яны не даходзяць. На выхадзе ў мяне забралі ўсе паперы, на якіх былі пазначаны кантакты тых, хто ў камеры разам быў.

Дарэчы, у душ вадзілі два разы за 12 дзён, у Жодзіне.

**Марына КОКТЫШ.**

ФОТАРЭПАРТАЖ

# Вялікдзень

*Сёлета каталікі амаль на месяц раней за праваслаўных адсвяткавалі Вялікдзень. Вось як праходзіла набажэнства ў Фарным касцёле Гродна.*










ГУЧНАЯ СПРАВА

## Пінчане патрабуюць правесці пазачарговую атэстацыю супрацоўнікаў міліцыі

*Учора суд Маскоўскага раёна Брэста працягнуў разгляд крымінальнай справы супраць 14 пінскіх палітвязняў, якіх абвінавачваюць ва ўдзеле ў масавых беспарадках у ноч з 9 на 10 жніўня ў Пінску.*

Пацярпелымі па справе выступаюць 109 супрацоўнікаў міліцыі, большасці якіх прычынена шкода, якая не пацягнула за сабой кароткачасовага расстройства здароўя. За гэтыя дні былі дапытаны 72 пінскія міліцыянты, якія ў агульнай суме ацанілі маральную шкоду на суму 382.500 рублёў.

Свае маральныя пакуты міліцыянеры абгрунтоўваюць тым, што яны «*зведалі страх, прыніжэнне, боль і сорам, праз пеpажытыя падзеі яны страцілі сон, спакой і апетыт, адчувалі і адчуваюць трывогу*»...

У адказ на канвеерны допыт пацярпелых міліцыянтаў і іх паказанні жыхары Пінска і Пінскага раёна стварылі петыцыю, у якой просяць ўпраўленне ўнутраных спраў Брэсцкага аблвыканкама правесці пазачарговую атэстацыю ўсіх пацярпелых супрацоўнікаў пінскіх ГАУС і РАУС, якія былі задзейнічаны ў разгоне вулічных акцый пратэсту супраць фальсіфікацый выбараў у Пінску 9 і 10 жніўня 2020 года, і ўстанавіць ступень адпаведнасці названых супрацоўнікаў займаемым пасадам.

«*Мы выказваем сур'ёзную занепакоенасць: ці дазваляе маральна-псіхалагічны стан дадзеных супрацоўнікаў выконваць задачы па абароне грамадзян Рэспублікі Беларусь ад крыміналітэту, супрацьстаяць забойцам, рабаўнікам і гвалтаўнікам, якія стаяць перад органамі ўнутраных спраў?*» – задаюцца пытаннем у петыцыі.

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

ПРАГНОЗ

## Сёння ў Беларусі чакаюцца дождж і мокры снег

Ноччу -2…+4°С, днём +4... +9°С, у Мінску да +7°С.

Такое ж надвор'е будзе і ў сераду і чацвер.

У пятніцу 9 красавіка атмасферны ціск падрасце, паменшыцца колькасць аблокаў, і ў асноўным абыдзецца без ападкаў. Будзе да +11°С.

На выхадных запануюць паўднёва-заходнія вятры, якія пачнуць пастаўляць у нашу краіну ўмерана цёплае паветра, і ў многіх рэгіёнах пацяплее.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
6 КРАСАВІКА 2021 г.

ШЧЫРАЯ РАЗМОВА

Аляксей МАРАЧКІН:

# «У Беларусі ўлада абвясціла Год адзінства, а праводзіць у жыццё палітыку варажнечы»

*1 красавіка ў сталічным Палацы мастацтва адкрылася выстава суполкі «Пагоня», якою «пагонічы» вырашылі адзначыць сваё 30-годдзе. Адзін са стваральнікаў суполкі і былы яе кіраўнік **Аляксей МАРАЧКІН** выставіў цэлую залу твораў у нечаканай для свеx прыхільнікаў тэхніцы акварэлі. Перад адкрыццём мы сустрэліся з мастаком і пагаварылі не толькі пра развешаныя на сценах карціны.*

**– Спадар Аляксей, на юбілейнай выставе вы ўсіх здзівілі, паказаўшы больш за паўсотню акварэльных твораў. У кулуарах толькі і гаворкі было, што пра Марачкіна-акварэліста. Што змусіла вас змяніць тэхніку?**

– Акварэлі я і раней пісаў, тут няма ніякіх неспадзяванак. Проста апошнім часам займаўся імі больш. За два з паловай месяцы самаізаляцыі, нікуды практычна не выходзячы, зрабіў больш за 800 аркушаў. І сваю экспазіцыю так і назваў «Акварэлі», маючы на ўвазе свабоднае гушканне, вольны палёт фантазіі. Акварэль прываблівая яшчэ і даступнасцю – вада бясплатная, папера танная. Прычым гэта вельмі старажытная тэхніка. Калі яшчэ не было алейных фарбаў, чалавек у вадзе раствараў каляровую гліну і маляваў на скалах. А я ў творчым працэсе зрабіў адкрыццё: калі на чыстай плоскасці разліць пафарбаваную ваду, яна ніколі не расплывецца абы-як. Ідзе працэс самаўтварэння вобраза. Зірнеш – і бачыцца нейкая карцінка. Застаецца толькі дамаляваць. Так я і працаваў. Часам за дзень выходзіла па трыццаць твораў.

**– Тры дзясяткі за дзень?!**

– Бывала і больш. Летась я быў тры з паловай месяцы на пленэры ў Чарнагорыі, яна мяне і натхніла на такую актыўную творчасць – сваёй незвычайнай прыродай, морам. Там мне таксама ўдалося плённа папрацаваць.

**– Мы стаім каля карціны пад назвай «У тым годзе», на ёй АМАП дубінкамі малоціць народ. Гэты сюжэт вам таксама вада падказала?**

– Вада. І жыццё наша. Мне засталося толькі шлемы і дубінкі падмаляваць. Быць убаку ад падзей, што адбываюцца ў нашай краіне, я не магу. Таму і акварэлі ў мяне атрымліваюцца злабадзённымі. Прызнацца, я мастак эклектычны, мне хочацца «абняць неабдымнае». Калісьці Пікаса прызнаўся, што калі б не мяняў жанры і стылі, то даўно памёр бы. А японец Хакусай (мой любімы мастак) трыццаць разоў за жыццё да непазнавальнасці змяняў свой стыль.

**– Нядаўна быў арыштаваны ваш калега Алесь Пушкін. Па абсалютна надуманым абвінавачанні – за нібыта распальванне нацыянальнай, расавай ды іншай варажнечы, за што прадугледжана пакаранне ад 5 да 12 гадоў няволі. Штосьці мастакі не бароняць свайго сябра…**

– Абвінавачанні Пушкіну падобныя на шызафрэнічнае трызненне. Я лічу яго вельмі таленавітым творцам, у свой час напісаў яго партрэт. Па такім самым абвінавачанні можна каго заўгодна з мастакоў кінуць за краты. Скажам, народнага мастака Арлена Кашкурэвіча – за ілюстрацыі да «Карнікаў» Алеся Адамовіча. Можа, калі б ён жыў, і да яго прычапіліся б… А куды дзець фільмы пра вайну, дзе таксама можна знайсці тое самае «распальванне»?

**– Саюз мастакоў – самая шматлікая ў краіне творчая арганізацыя (больш за 1000 чальцоў). Чаму Саюз нават заявы ніякай па Пушкіну не прыняў? Будзе маўчаць?**

– Не думаю, кіраўніцтва СМ павінна ўсё ж неяк выступіць. І суполка «Пагоня» мусіць абавязкова заступіцца за Алеся. Праўда, тут такая справа. Учора я даведаўся, што гарадскія ўлады збіраюцца павялічыць плату за майстэрні мастакоў у два ці тры разы. У месяц будзе каля дзвюх тысяч рублёў. Для нас гэта касмічныя сумы. Куды нам дзецца? З'язджаць на вёску? І ў гэтым намеры гарвыканкама «памяркоўныя» мастакі вінавацяць тых, хто не маўчыць, як мыш пад венікам. І мне – дзе паўнамёкамі, а дзе і адкрыта – пра гэта неаднойчы гаварылася…

**– А вы не баіцеся, што і да вас могуць уварвацца «мастацтвазнаўцы» ў балаклавах? Бо і вашы некаторыя карціны пры жаданні можна патрактаваць як «распальванне варажнечы». Скажам, на адной з іх – герб Расіі ці то з двухгаловым арлом, ці то з курыцай…**

– Ну, калі начальнік дзяржавы называе бел-чырвона-белы сцяг экстрэмісцкім, то і мяне можна пасадзіць – за «экстрэмізм». Дарэчы, летась я ўжо заплаціў каля дзвюх тысяч рублёў штрафаў за ўдзел у несанкцыянаваных акцыях. Што да згаданай вамі карціны, то там як бы не зусім герб. Там проста двухгаловая курыца з сярпом і молатам і чырвонай зоркай. У Расійскай імперыі – раней Савецкім Саюзе, цяпер Расійскай Федэрацыі – тая ж самая ідэалогія: пашыраць тэрыторыі, не лічыцца ні з кім. Паслухайце, як кіраўнікі Расіі пра Украіну гавораць: што гэта не дзяржава, а прыдуманая бальшавікамі рэспубліка. Калі так гаворыцца пра ўкраінцаў, то што можна сказаць пра нас? Мы ж з Расіяй – «саюзная дзяржава»! Хрыстос гаварыў: «Даю вам запавет: любіце адзін аднаго». Запавет парушаецца тымі, хто падымае руку на братні народ, а гэта вялікі грэх.



**– Яшчэ гады два-тры таму шмат хто ў асяроддзі беларускай інтэлігенцыі меў пэўныя ілюзіі. Дастаткова было Уладзіміру Макею надзець вышыванку ці намесніку прэм'ер-міністра паехаць на пахаванне Каліноўскага ў Вільнюс, як пачыналіся гаворкі пра «мяккую беларусізацыю», якую паціху праводзіць беларуская ўлада. Сёння гэтыя ілюзіі канчаткова развеяліся?**

– Думаю, так. Гады тры таму мы з вамі на старонках «Народнай Волі», згадваючы 1937 год, гаварылі, што д'ябальшчына можа вярнуцца. Вось яна і вяртаецца. Немагчыма вымераць усю шкоду, якую за 26 гадоў нанёс Лукашэнка нацыянальнай культуры, беларускай мове. А родная мова, я лічу, мацней за атамную зброю. Менавіта па мове Расія будзе вызначаць сваю тэрыторыю. Як яна вызначыла ў Крыме і на Данбасе. І калі ўсе мы загаворым па-руску, то нас забяруць голымі рукамі. Я нядаўна сустракаўся з вядомым навукоўцам Яўгенам Фурсам. І ён мне пераканаўча давёў, што Бог чуе народы толькі праз іхнія родныя мовы. Калі мы з табой гаворым на адной мове – мы ўжо роднасныя душы. Арэал рускай мовы звузіўся па ўсёй тэрыторыі былога Савецкага Саюза. Літва, Латвія, Эстонія, Грузія, Казахстан, Украіна… А Беларусь па-ранейшаму адкрытая для русіфікацыі, яна сюды і хлынула па ўсіх каналах.

**– Мінск літаральна завешаны чырвона-зялёнымі сцягамі, яны над кожнай дзяржустановай, на многіх вышынных будынках. Якія асацыяцыі ў вас гэта выклікае?**

– У вайну сцяг вывешваецца над захопленымі будынкамі. Улада, відаць, і хоча гэтым паказаць, што ў нас вайна… А калі гаварыць сур'ёзна, то гэта маразм. Нічога ўжо не выратуе гэты рэжым – ні высока ўзнятыя чырвона-зялёныя сцягі, ні апушчаная ніжэй усіх плінтусаў тэлевізійная прапаганда. Кола гісторыі рухаецца наперад. Больш за тое, я сёння магу сказаць, што бел-чырвона-белы сцяг не заплямлены крывёю. А вось чырвона-зялёны заплямлены – у мінулым годзе. Забіты Аляксандр Тарайкоўскі, Аляксандр Віхор, Генадзь Шутаў, Раман Бандарэнка (у мяне ёсць работа, прысвечаная яго памяці). Што б там ні плявузгалі прыўладныя прапагандысты, бел-чырвона-белы сцяг быў і застаецца нацыянальнай і хрысціянскай святыняй, гэта ў свой час падкрэсліваў нават кіраўнік БПЦ Філарэт, галасуючы за яго ў Вярхоўным Савеце.

**– Паводле вашых адчуванняў, ці ўдалося ўладам запалохаць грамадства? Мяркуючы па тым, як прайшоў Дзень Волі 25 сакавіка, выглядае, што ўдалося.**

– А я перакананы, што не. Беларускі супраціў – гэта яшчэ і кукіш у кішэні. Улада хваліцца, што задушыла шэсці. Насамрэч нічога яна не задушыла. Супраціў, непрыманне рэжыму засталіся. Спружына проста сціснулася пад ціскам брутальнай сілы. Прыйдзе час – яна выпрастаецца. І тады ўладзе мала не пакажацца. Начальнік дзяржавы сёння валодае толькі дубінкамі і зброяй, а не розумамі людзей. То там, то тут выкарыстоўваючы сілавы рэсурс, улада працуе супраць сябе. Гэта агонія, і яна не можа доўга прадаўжацца.

**– Нядаўна мне тэлефанаваў паэт Ігар Шклярэўскі з Масквы (ён ваш зямляк – родам з Магілёўшчыны) і не мог паверыць, што з бел-чырвона-белым парасонам ён сёння не дайшоў бы ад плошчы Коласа да плошчы Перамогі… На вашу думку, свет дастаткова інфармаваны пра тое, што ў нас адбываецца?**

– Я думаю, дастаткова. У наш час нікуды нічога не схаваеш. І тое, што вытварае ўлада ў Беларусі, ледзь не ў рэальным часе бачыць увесь свет. Таму і хваля салідарнасці такая адчувальная. Я ўчора паслухаў расійскага журналіста Аляксандра Няўзорава, ён усе беларускія падзеі проста па палічках расклаў. А ў канцы перадачы, седзячы на фоне бел-чырвона-белага сцяга, выгукнуў «Жыве Беларусь!».

**– Рашэннем улады 2021 год у Беларусі абвешчаны Годам народнага адзінства. Ці зроблены нейкія крокі тою ж уладай, каб напоўніць хоць нейкім сэнсам гэтую дэкларацыю?**

– Ніводнага кроку я не бачу. Было б адзінства, калі б улада дазволіла 25 Сакавіка прайсці па вуліцы спакойна, без дручкоў. Як людзі, дарэчы, і хадзілі ўвесь час. Гэта ж былі супермірныя шэсці, нідзе ніводнай шыбы не пабілі. Улада аб'явіла год адзінства – і працягвае паляваць на людзей! Выходзіць, у нас не год адзінства, а год варажнечы. І правакуе на тую варажнечу не хто іншы, як сама ўлада – судамі, штрафамі, катаваннямі. Вось я ўспамінаю сваё маленства. У вёсцы – дзве хаты, у адной жыў мой бацька Антон Марачкін, у другой – сусед Іван Драмок. І яны канфліктавалі. А нейкі бандыт з лесу даў Драмку зброю, нацкаваў яго на бацьку. І – варажнеча перарасла ў вайну. Пытанне – хто ў гэтым вінаваты? Адказ – бандыт-падбухторшчык! Так і ўлада цяперашняя дзейнічае, даўшы зброю і не абмежаваныя законам паўнамоцтвы сілавікам.

**– Але як супыніць гэтую варажнечу? Супраць лому, як вядома, няма прыёму.**

– Бог агаляе зло, каб на яго фоне было больш заўважна дабро. Сёння кожны грамадзянін Беларусі павінен вырашыць: ён на баку дабра ці на баку зла? Настаў, калі хочаце, момант ісціны. Дагэтуль мы жылі больш-менш спакойна, усё нас збольшага задавальняла. Прыйшоў час вызначыцца і пашукаць спосабы змагання з ломам улады, які ўвесь пржавеў. Мой «лом» – мастакоўскі пэндзаль. Усіх чытачоў «Народнай Волі» запрашаю пераканацца ў гэтым, наведаўшы выставу ў Палацы мастацтва.

**Міхась СКОБЛА.**

**На фота: Аляксей Марачкін каля сваёй карціны «Крывавае кола».**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# Кто затягивает петлю на шее белорусского народа?

Ситуация с выплатами по внешнему долгу Беларуси с каждым месяцем обостряется. Собственной валюты для его обслуживания в стране почти никогда не было. Деньги приходили к нам как с Востока, так и с Запада. Если взять внешние долги всех секторов государства, то на начало года набежало 42,15 миллиарда долларов. Это так называемый внешний валовой долг государства (ВВД). Ладно бы заимствовали валюту предприятия на развитие производства, но в последние 10–15 лет опережающими темпами берет в долг само государство во главе с Министерством финансов. Если лет 10–15 назад доля госдолга в ВВД составляла 10–15%, то сегодня это 46%.

Существенная часть внешнего госдолга Беларуси представлена евробондами – облигациями Министерства финансов, которые оно размещает на европейском финансовом рынке. Так, собственно, поступают министерства финансов практически всех стран. Главное преимущество таких займов по сравнению, скажем, с кредитами таких международных финансовых институтов, как МВФ, Всемирный банк, ЕБРР и других, в том, что покупателей облигаций довольно много. И, что важно для белорусских властей, никто при этом не выставляет каких-либо экономических и политических условий. Евробонды хоть и дороже кредитов, но позволили разнообразить географическую структуру заемщиков и снизить зависимость от главного кредитора Беларуси России. Благодаря евробондам правительству было легче рефинансировать, то есть перезанимать основную часть белорусского внешнего и внутреннего госдолга.

Последнее размещение евробондов, которые, несмотря на название, номинируются, как правило, в долларах, Министерство финансов Республики Беларусь осуществило в июне 2020 года двумя выпусками на общую сумму 1,25 миллиарда долларов: на 500 миллионов с погашением в феврале 2026 года под ставку 5,875% и на 750 миллионов с погашением в феврале 2031 года под ставку 6,378% годовых. Погашение облигаций осуществляется постепенно, купонами раз в полгода. На настоящий момент в обращении находятся пять выпусков белорусских евробондов на общую сумму 3,25 миллиарда долларов. Владельцы облигаций, а это преимущественно банки, различные инвестфонды западных стран могут при необходимости продать приобретенные облигации раньше срока их полного погашения на вторичном рынке.

В марте котировки евробондов Беларуси на вторичном рынке сильно пошли вниз. На Франкфуртской бирже, к примеру, облигации с погашением в 2030 году торговались по 94,3% от номинала. Одной из причин падения аналитики считают активность в этой области Народного антикризисного управления (НАУ), которое разослало покупателям последних выпусков белорусских гособлигаций письма с заявлениями об использовании полученных средств не на развитие экономики, а на репрессии против белорусского народа. Руководители НАУ предложили инвесторам избавляться от белорусских бондов и даже предъявить их эмитенту к досрочному погашению. Вроде бы откликнулись на призыв некоторые инвестиционные фонды Дании, а Австрийский RaiffeisenBank заявил, что готов к переговорам с белорусскими демократическими силами о судьбе приобретенных им облигаций.

Это, конечно, не значит, что владельцы белорусских евробондов начнут массово их сливать на вторичном рынке. Но следующие возможные размещения Министерством финансов РБ выпусков суверенных облигаций на еврорынке станут весьма проблематичными. Скоро международные агентства Fitchи, S&P будут планово пересматривать финансовые страновые рейтинги Беларуси и могут их опустить. В сложившейся ситуации даже может быть инициировано расследование регуляторов ЕС и США в части размещения последних выпусков евробондов Беларуси. Владельцы облигаций, очевидно, оценивают и эти риски. Беларусь и так попала в компанию стран, финансовое состояние которых оценивается как преддефолтное. Среди них Тунис, Эфиопия, Лаос, Шри-Ланка, Бахрейн.

В 2021 году Беларуси следует заплатить по валовому внешнему долгу более 5,1 миллиарда долларов, в том числе по государственному внешнему долгу – 2,4 миллиарда. Без очередного рефинансирования это невозможно. Учитывая политическую ситуацию в нашей стране, Россия не готова полностью перекредитовать белорусское руководство, как это она могла делать ранее. Когда с западного вектора заимствования практически невозможны, взор Министерства финансов РБ, естественно, сосредоточился на российском финансовом рынке, где оно уже работало с гособлигациями. Министерство уже анонсировало соответствующие мероприятия, и по его расчетам в текущем году страна справится с обслуживанием своих внешних обязательств. Политических кредитов, как Россия, тот же Китай никогда давать не будет.

Министерство финансов увеличило планируемый дефицит бюджета на 2021 год с 4 до 5,6 миллиарда рублей. Годовой план по внутренним государственным заимствованиям уже перекрыт более чем в 3 раза: выпущено гособлигаций на сумму свыше 600 миллионов долларов для спасения от банкротства металлургического завода, что в Жлобине. В предбанкротном состоянии находятся и другие белорусские «крупняки» типа «Гомсельмаша». Из банков уже практически выжали всю валютную ликвидность, заставляя их покупать гособлигации. Недаром министр финансов Ю.Селиверстов в одной из последних своих статей написал: «*исчерпаны все резервы*». По его мнению, в стране наблюдается «*перенасыщенность налоговой системы льготами различного характера и преференциальными режимами, а также недостаточный вклад в финансирование государственных расходов от субъектов малого и среднего предпринимательства*». И соответствующие шаги по повышению налоговой нагрузки, как видим, правительство делает. Субъекты хозяйствования и население, как говорится, затягивают пояса. Только боюсь, что уже на шее белорусского народа затягивается самая настоящая петля.

ЭКОНОМИКА



# Белорусский экспорт: кому, что и сколько мы продаем…

*Последние месяцы мы всё чаще слышим, что с доступом на международные рынки у белорусской промышленности всё хуже и хуже. Причины этого, внутренние и внешние, наслаиваются друг на друга. Экономические санкции совместно с коронавирусным локдауном порождают мрачные прогнозы, и вдруг становится известно, что экспорт в начале 2021-го стал расти. Событие, конечно, радостное, но всё это никак не вяжется с законами логики.*

*И, если задуматься, вопросы начнут возникать один за одним. Почему сейчас экспорт растет, а не падает? Как много дают стране солигорские шахтеры? А что там с белорусской нефтянкой? Радуют ли продажи тракторов и БелАЗов? Уверенно ли чувствуют себя госпредприятия? Сегодня мы попробуем разобраться в такой сложной и многогранной теме, как отечественный экспорт. Поможет нам в этом кандидат экономических наук, научный директор Исследовательского центра ИПМ **Ирина Точицкая**.*

## Что продаем?

**– Как распределяется экспорт белорусских товаров и услуг? На чем мы зарабатываем в первую очередь?**

– Давайте не будем смешивать товары и услуги. Сначала поговорим о том, на чем мы зарабатываем больше всего, экспортируя товары. Согласно данным Белстата за 2020 год, на первом месте стоят удобрения – калийные, азотные, минеральные смешанные. Они составляют около 10% от всего стоимостного объема экспорта страны. Из них примерно 8,3% занимают именно калийные удобрения.

На втором позиции – нефтепродукты, которых в общем объеме экспорта товаров насчитывается 9,5%. Доля нефтепродуктов, зависящая от таких факторов, как поставки нефти из России и колебания цен на мировом рынке, в 2020 году была ниже, чем в 2019-м (15,8%), в силу определенных проблем, которые в прошлом году возникали в связи с первым и вторым факторами.

К важным экспортным товарам относится молочная и мясная продукция. В 2020 году ее доля составила 8,2% и 2,8% соответственно.

Еще одна значимая позиция – черные металлы и изделия из них, на которые приходится 3,8% от общего объема экспорта страны.

**– А где белорусские МАЗы, БелАЗы, прочая техника, которую выпускают наши знаменитые индустриальные гиганты?**

– В общем объеме экспорта доля тракторов составляет 1,8%, грузовиков – 2,1%. Тут важно отметить, что доля машиностроения в белорусском экспорте невысокая: запчастей и принадлежностей – 1,1%, машин, механизмов для уборки и обмолота сельскохозяйственных культур (их выпускает в том числе «Гомсельмаш») – всего 0,5%.

**– А почему мы, анализируя структуру экспорта, не упомянули продукцию деревообрабатывающей промышленности?**

– Среди основных позиций стоит отметить продольно распиленные пиломатериалы (в 2020 году их продано на 496 миллиона долларов) и древесно-стружечные плиты, которых по объему поставок было примерно в два раза меньше, чем товаров первой вышеупомянутой позиции (продано на 245 миллионов долларов). Мебели экспортировали на 630 миллионов долларов. Сложив показатели по всем этим позициям, мы получим около 2% от всего экспорта. Из них 52% идут в страны СНГ (в первую очередь в Россию).

**– Теперь давайте поговорим про услуги.**

– В экспорте услуг у нас наибольший вес всегда традиционно имеют транспортные услуги. Причина этого очевидна: мы транзитная страна, и пользоваться преимуществами важно и нужно. Поэтому транспортные услуги составляют 42% (из них перевозка грузов – 36,4%). На втором месте стоят компьютерные услуги. Под это понятие подводится в первую очередь все то, что мы сегодня называем IT-индустрией. В 2020 году доля этих услуг составляла 28,6% от общего экспорта услуг. Действительно, IT значительно приросли в последние годы и являются значимым источником поступления валюты в страну (порядка 2,5–2,7 миллиарда долларов). Для сравнения – в 2019 году объем экспорта компьютерных услуг составлял 2,1 миллиарда долларов.

Строительные услуги занимают 6,8% от белорусского экспорта, но здесь стоит учитывать важный нюанс: большинство этих услуг (3,8%) оказано белорусскими строительными организациями иностранному лицу на территории Беларуси.

Что еще существенное можно добавить? Разве что услуги в области рекламы, маркетинга организации ярмарок и выставок – они составляют 4,5% от экспорта.

## Куда продаем?

**– Как распределяются экспортируемые товары, какова направленность экспорта?**

– Согласно данным Белстата, в 2020 году мы поставили товары в 174 страны. Но с точки зрения концентрации поставок у нас складывается такая картина: на 5 стран приходится 67% экспорта, на 10 стран – 79,5%. То есть на оставшиеся 164 страны распределяется лишь 20,6% экспорта. Поэтому давайте будем держать в уме: набор стран большой, но вместе с тем есть высокая концентрация поставок в отдельные регионы.

**– Давайте начнем рассматривать их по отдельности…**

– Мы никого не удивим, сказав, что наш основной экспортный партнер – Россия. В 2020 году мы поставили туда 45% экспортируемых товаров (41,5% было в 2019-м). В том, что Россия является основным экспортным рынком, нет ничего плохого. Есть понятие «естественный торговый партнер» – Россия является им в силу своей географической близости, отсутствия языкового барьера, обоюдного понимания рынка и других объединяющих факторов.

Поэтому проблема состоит не только в том, что концентрация на рынке России достаточно высокая, но и в том, что наш партнер очень сильно зависит от экспорта сырья. По этой причине экономика России чувствительна к внешним шокам, обусловленным волатильностью *(изменчивостью. – **Прим. Onliner**)* мировых цен, например, на нефть. Ввиду высокой связанности экономик наших стран происходит «перелив» этих шоков на Беларусь.

**– Какие еще страны можно назвать нашими стратегическими партнерами?**

– Еще один наш естественный партнер – Украина. В 2020 году мы поставили туда 11% экспортируемых нами товаров. Здесь стоит отметить, что среди товаров, продаваемых в данную страну, большое количество приходится на нефтепродукты (38,4% в 2020 году и 48,5% в 2019-м).

Следом за Украиной идут Польша (4,3% нашего экспорта) и Литва (3,6%). Германия принимает 3,2% от всех белорусских товаров, поставленных за рубеж. В перечне наших партнеров Великобритания занимает почетное 6-е место: на нее приходится 2,8% экспорта, но это фактически одни нефтепродукты.

**– А как же наш стратегический партнер Китай? Где в списках ближневосточные страны, в которые постоянно направляются белорусские делегации?**

– Китай находится на 7-м месте (2,6%), показатель экспортируемых в эту страну товаров действительно растет. В 2019-м Китай стоял на 9-м месте. В Китай выросли поставки нашей мясомолочной продукции, рапсового масла и ряда других товаров. Однако уровень экспорта в эту страну пока намного меньше, чем импорта. В результате отрицательное сальдо составляет 3 миллиарда долларов. Что касается, например, Объединенных Арабских Эмиратов, то доля поставок туда в общем объеме экспорта белорусских товаров в 2020 году составила 0,3% – как видите, цифра небольшая.






## Цена сырьевых товаров

**– Представим, что показатели, озвученные вами, относятся не к Беларуси, а к некой безликой гипотетически созданной стране. Вам приносят эти данные и просят выразить первое впечатление о них. Что бы вы сказали?**

– Делать выводы по озвученным выше данным я, конечно, не стала бы. Требуется более глубокое изучение структуры экспорта по всем направлениям. Может быть, с ходу я сказала бы две вещи. Первое – в этой стране есть залежи калийных удобрений. Второе – возможно, здесь, судя по статистике экспорта нефтепродуктов, немалые запасы нефти.

Это, конечно же, шутка, поэтому при анализе нам не следует обезличивать страну. Общая картина свидетельствует о том, что в структуре нашего экспорта слишком много товаров, которые относятся к классу низкотехнологичных и среднетехнологичных низкого уровня. Для страны, в которой предметом гордости является машиностроительный комплекс (а именно с ним у многих ассоциируется белорусское производство), доля экспорта его товаров относительно низкая.

Также я добавила бы, что с точки зрения экономического развития в стране сделан чрезмерный упор на экспорт товаров, произведенных на основе сырья. Такие товары чувствительны к волатильности мировых цен, как и в случае с Россией, который мы описывали выше. Насколько реальны эти риски, мы с вами постоянно чувствуем, например, в связи с изменением цен на нефть и, соответственно, нефтепродукты.

То, что доля сырьевых товаров высока, подтверждает и факт сильного изменения объемов экспорта под влиянием динамики цен.

В структуре экспорта нашей страны нефтепродукты занимают лидирующие позиции, и это при том, что нефти у нас добывается очень мало и всю ее мы экспортируем (в Германию). Это значит, что наша экономика зависит от условий, которые выставляет поставщик нефти, в нашем случае – Россия.

В конце концов, давайте не будем забывать, куда движется мир – в сторону от ископаемого топлива. Согласно прогнозу Международного энергетического агентства, в ближайшие шесть лет спрос на нефть будет падать. Соответственно, и заработки нашей экономики на экспорте нефтепродуктов могут снизиться. И мы говорим не об отдаленной перспективе – в Европе уже целый ряд стран объявили, что к 2030 году они вообще прекращают производство автомобилей с двигателями внутреннего сгорания.

**– Остановимся подробнее на молочной и мясо-молочной промышленности.**

– Ситуация с ней интересная. Цифры внушают уважение, но важно еще рассматривать нюансы. У нас очень высокая концентрация товаров этой категории на одном рынке – 84% продуктов поставляется в Россию. Это существенно повышает риски больших экономических проблем в случае, если страна, на рынок которой мы поставляем продукцию, примет решение каким-то образом повлиять на условия поставки. Например, через запреты на уровне санитарно-эпидемиологической службы. «Молочные войны» с Россией – история всем знакомая, было бы наивно полагать, что ситуация улажена окончательно и впредь никогда не выйдет в острую фазу.

Добавьте к этому то, что Россия в последние годы стремительными темпами наращивает объемы мясо-молочной промышленности, повышает качество таких производств. Еще совсем недавно российский рынок молочки был для нас буквально безграничным, дефицит позволял направлять туда любые объемы – только производи. Сейчас ситуация меняется.

Возможно, вы слышали озвученную недавно на государственном уровне цифру – к 2030 году экспорт белорусской молочной продукции планируется довести до 4 миллиардов долларов. Сейчас этот показатель составляет 2,4 миллиарда. Пока мне сложно представить, как при нынешнем распределении рынка удастся за девять лет достигнуть таких показателей. На российском рынке мы уже сталкиваемся с существенной и всё возрастающей конкуренцией. Хотя я и не возьмусь сказать, что это в принципе невозможно. Вероятно, рассматриваются рынки Китая и арабских стран, но и там продвигать свою продукцию надо будет с боем.

## Проблемы роста

**– Почему, на ваш взгляд, нет тех объемов роста экспорта, которые хотелось бы увидеть?**

– Справедливости ради важно отметить: отечественные предприятия не сидят сложа руки, они действительно прилагают немало усилий, чтобы пробиться на международные рынки. В 2020 году ощутимо вырос экспорт рапсового масла. Производители увидели его востребованность на рынке и подстраиваются под ситуацию. Таких примеров много, некоторые – успешные, другие – не очень.

Важно понимать, что, когда говорят «диверсифицируйтесь», за этим стоит целый ряд серьезных, продуманных, подкрепленных человеческими и финансовыми ресурсами действий. Просто так на рынке другой страны не окажешься – ты должен пройти множество процедур технической регистрации, исследовать рынок, понять его предпочтения, провести серьезную маркетинговую кампанию. Это всё стоит времени и денег. У белорусских предприятий порой не хватает или одного, или другого ресурса, а зачастую – обоих.

Я смотрела исследования, которые были проведены для создания стратегии выхода российской молочки на китайский рынок. Это фундаментальная, качественная и очень серьезная работа. Было изучено, сколько добавляется к цене продукта на каждом этапе за счет промежуточных звеньев и почему. Анализ показал, что традиционно в Китае мало востребовано молоко, но при этом есть большой спрос на йогурты и сыры как элементы здорового питания. Также были разработаны конкретные рекомендации по брендированию продуктов. Оказалось, что Россия воспринимается в Китае как страна физически хорошо развитых людей. Исходя из этого, предлагалось формировать конкурентные преимущества условно таким образом: «ешь нашу продукцию – и будешь сильным и здоровым».

Чего-то подобного, ориентированного на белорусских производителей, я не видела.

Особенно сложно выходить на иностранные рынки с продукцией машиностроения, ведь там, помимо всех перечисленных проблем, очень остро стоит вопрос с сервисными центрами, постоянными представительствами. Вы покупали бы в Беларуси новый автомобиль какого-нибудь производителя, понимая, что у нас нет ни одного сервисного центра этой марки?

Несмотря на всё это, статистика экспорта говорит о том, что, например, наши производители грузовиков пытаются диверсифицировать рынки сбыта. Если раньше поставки шли в основном в Россию, то сейчас география расширяется.

Проблема еще в том, что у нас совершенно разные экспортные корзины для стран СНГ и остальных стран. В Россию мы поставляем продукцию машиностроения, продукты питания, деревообработки. Вне СНГ у нас доминируют нефтепродукты, калийные удобрения, черные металлы. Невольно возникает вопрос: почему же продукция, успешно поставляемая на рынок СНГ, с таким трудом пробивается на иные рынки, действительно ли она конкурентоспособна? Причем здесь можно говорить не обязательно о конкурентоспособности самой продукции (давайте признаем, что китайцы тоже не всё делают суперкачественно и при этом отлично конкурируют), но и о том, насколько хорошо мы умеем ее продвигать на внешние рынки.

В качестве примера: как-то мы разговаривали с одним бизнесменом, который в шутку заявил, что продавал бы белорусские трактора по всему миру, в развивающихся странах используя маркетинговый слоган: «Белорусский трактор – это трактор, который вы можете починить сами». Вполне возможно, что для потребителей целого ряда стран это будет важно. Понятно, что я утрирую, но пример показателен – по крайней мере у человека интересный маркетинговый подход.

## Госпредприятия или частники?

**– Какую часть белорусских экспортеров составляют госпредприятия, а какую – частники? Роль частников растет или снижается? Почему?**

– Согласно официальным данным Белстата, государственные организации и организации с долей государства в уставном фонде поставили в 2020 году 34% от общего объема белорусского экспорта. В 2019-м этот показатель равнялся 32,5%.

**– Я правильно понимаю, что самостоятельно работающий частный сектор у нас экспортирует практически вдвое больше товаров, чем государственный?**

– Получается, что так. Об этом говорит официальная статистика. В 2020 году экспорт товаров коммерческими организациями государственной формы собственности и с долей государства в уставном фонде оценен в 9,8 миллиарда долларов, соответственно 19,2 миллиарда приходится на негосударственный сектор.

**– Какова доля высокотехнологичных производств в общем объеме белорусского экспорта?**

– К сожалению, она традиционно крайне мала и составляет около 3%.

**– Можете ли вы составить какой-то прогноз по изменениям структуры экспорта Беларуси в свете событий 2020–2021 годов?**

– Мне не хотелось бы гадать, предлагая вам ничем не подтвержденные цифры. Упомяну то, что у всех на слуху. Я не думаю, что произойдет падение экспорта, которое сейчас часто предрекают IT-сектору в связи с предполагаемой релокацией компаний. По крайней мере в ближайшее время. Хотя возможно замедление темпов роста экспорта этого сектора.

Также важно понимать, что если смотреть сегодня на стоимостные объемы экспорта, то они точно будут расти. Потому что сравниваем мы с прошлым годом, а в январе 2020-го у нас были колоссальные проблемы с поставками нефтепродуктов. Это называется эффектом низкой базы. Для понимания – по сравнению с январем прошлого года экспорт в Нидерланды в январе этого года вырос в 4,2 раза. В Нидерланды мы поставляем только нефтепродукты…

Всю остальную информацию мы можем начать анализировать, когда получим статистику за первый квартал 2021 года.

**Дмитрий КОРСАК.** *(onliner.by)*

